УЛАДЗІМІР КАРЫЗНА

# ЦЕПЛЫНЯ

*(паэма, вершы, песні)*



Мінск
«Мастацкая літаратура»
1977

* * *

*Край з калыскі любімы:*
*Каля сцежкі чабор,*
*Жар асенняй рабіны*
*У блакіце азёр.*

*Бор палае на ветры*
*У сузор'і зарніц...*
*Як жа край гэты светлы*
*Нам з табой не цаніць!*
*Мы адсюль,*
*з роднай песні,*
*Павыходзілі ў свет,*
*Тут зязюлі прынеслі*
*Нам шмат вёсен і лет.*

*Тут жа наша натхненне,*
*І сляза,*
*І зара,*
*Цёплы дожджык вясенні*
*Для душы,*
*Для пяра.*

# БАЦЬКА

**Паэма**

I

Тата,
З далёкай дарогі
Першы раз я нічога табе
не прывёз,
Першы раз
Не сустрэў ты мяне ля парога,
Ля рабіны, ля нашых бяроз.

Не сустрэў,
Не сказаў ні слова,
Ды здалося мне,
Што не з коміна дым вірыў,
А ты, напрацаваўшыся,
Сеў на калоду
І закурыў.

Папяросу цёплую
Трымаеш губамі,

Не спяшаешся, пускаеш дымок,
Любуешся полем,
Небам светлым над намі
І нават не думаеш,
Што сын прыехаў дамоў...

Не думаеш?!
Няма больш на свеце
Ні рук тваіх,
ні ўсмешкі...
Задыхаюся я,
Хоць на месцы стаяў,
Не бег,
Гэта толькі
Позірк мой
пранёсся па ўзмежку
На ўзгорак той,
Дзе продкі твае,
Рукі твае і смех...

II

Узгорак.
А ніжай — авёс.
Далей — балота.
Увосень там —
жоўтыя копкі.
Тата,
Не раз у вайну
твой лёс

На карту ставіўся.
Колькі
Коней загінула пад табой.
Былі тыя коні
З магніту быццам,
Бо вечна адводзілі сабой
Ад цябе кулі фрыцаў.

Ты з самых,
здаецца,
пякельных дарог
Заўсёды вяртаўся —
(нам радасць не змераць!).
А зараз?..
Ты ж бітву
выйграць мог
Такую, што цяжка было
паверыць!

Ці помніш?..
Досвітак. Цішыня.
Трывожна
Грыміць па дарозе павозка,
Ты лейчынаю грэеш каня:
Чакае цябе
Партызанская вёска.

Ты на гару —
лоб у лоб
з немчурой.

Як ты злаўчыўся
Даць з карабіна?
Машына —
назад,
І ты —
за гарой,
А да балота
Якая хвіліна...

Ачухаўся вораг
І чосу задаў,
Нібы тут з паўсотні
Было вас. Не меней.
Кіпела ад куль у балоце вада,
Жывое усё
Навакол анямела...
І раптам —
ціпыня,
Аж заклала вушы.
Сонца выплыла
з-за цёмных хмар.
Ты з балота вылез
На цёплую сушу
І толькі рвануўся
ў гушчар,
Зямлю з-пад ног тваіх
Куля выбіла,
Патушыла неба сіні касцёр,
З рук вінтоўка выпала,
Стала тухнуць жыццё...

Мусіць, песні птушыныя
Былі, як кроплі
Лекаў гаючых,
Вады жывой.
Мусіць, роднымі сёстрамі
Стаялі над табой бярозкі,
Бо вочы зноў
Засвяціліся сінявой.

Вусны смага паліла —
Вады чарпачком далоні
З балота ўзяў,
І яна полымя збіла,
Запахла ветрам
з мядовых траў.

Успомнілася недалёкіх
Вечароў даваенных святло:
Сукеначка лёгкая,
Сцежка, што вяла за сяло...

Можа, ўспамін,
Можа, гэты прастор,
залацісты і сіні,
Неба
І водар зямлі
Перавязаць пякучыя раны
Далі табе сілы
І, каб ад смерці паўзці,
Сілы таксама далі...

III

Мама,
Як тату нялёгка,
Ты і не знала,
А што чакае цябе,
Хіба магла ты знаць?
Жыта ў лагчыне
Спяшалася дажынала.
А ці патрэбна было
Спяшацца дажаць?

Акружылі фашысты
Ужо тваю хату!
Трэба далей
уцякаць ад іх:
Яны ж за партызана-тату
Возьмуць цябе
і дзетак тваіх!..

А ў печы
Хлеб сядзеў,
Пяклася яечня,
І ты не пайсці дамоў не магла,
А тут яшчэ мы
Прасілі есці...
І ты нас дамоў павяла.

Ужо хлебам запахла, здаецца,
Засвяціўся настрой.

Бачылася ў місцы
Жоўценькая,
як сучок на сонцы,
яечня...

І раптам:
— Дзетачкі!..
Ой!..

Аж адняло табе мову:
Стаялі фашысты
Ля нашага плота і ля дзвярэй:
Ведалі, прыйдзеш даіць карову
Ці пазганяць з агарода курэй...

— Што ж рабіць?
Ой, каб не трапіць!
Дзетачкі,
Мы не пойдзем дамоў.
«Дом не наш,—
Гаварыце,
калі падыдуць,
спытаюць раптам
Тыя.—
Дом наш, дзе Яська жыве Міхалёў».
І на бульбу чужую
Ты павярнула, як на сваю,
А мы за табой.
Спруцянелымі пальцамі
Зямлю капянула
І не пачула болю,

Як асот калючы
Схапіла рукой.

Пераступіла адну,
другую,
трэцюю баразну, і
Мы, як птахі
ў зялёнай хмары садоў,
Прыляцелі ў хату
Да бабкі Ганулі,
Задыхаемся:
«Фрыцы
наш акружылі дом!..»

Плачаш ты і бабка,
І мы па-дзіцячаму енчым:
Трэба пакінуць
Родных людзей і сяло.
І толькі, як будучы Дзень Перамогі
Усміхаўся самы меншы,
Якому тады
І трох месяцаў не было...

IV

Лесе,
больш чым каму
Табе абавязаны я,
Бо прыняў у вайну
Ты дзяцінства маё ў сваё голле.

Як лісток
Або шышку маленькую,
Сосен сям'я
Гадавала мяне,
Не шкадуючы ласкі ніколі.

Мне свяцілі суніцы,
Як зоры,
Якія закрыла вайна,
Мне былі, нібы хата,

Зялёныя шаты.
А што голадам пахла
Дзяцінства маё ў лахманах,
Дык хіба ж ты,
мой лесе, у тым вінаваты!

Прывучала зямлянка мяне да зямлі,
Яе холаду,
Раўнавагі,—
А што плакаў,
Калі па мяне
Ваўкі ноччу ішлі,—
Дык хіба ж ты,
мой лесе, у тым вінаваты!

Помню:
Шэры дождж
Шаптаў на вуха
Мокрую нуду.

Я слухаў
І заснуў на матчынай руцэ.
...Дажджавыя кроплі на шчацэ...
Разбудзіла маці словам трывожным:
— Ваўкі!
Прычакалі-такі.

Прыслухаўся —
ау-у-у... воўчае,
Як пажар уночы.
А зямлянка наша
З бярозкі,
З алешыны,
Коўдрай
Уваход у яе завешаны.

— О, гады праклятыя,—
Прастагнала маці.—
Мала фашыстаў
На нас з аўтаматамі,
Дык яшчэ і гэтыя
Зіркатыя,
зубатыя...
Маці ж запалак
Не знойдзе ніяк —
Так разгубілася.
— Божачка,
дай ты мне памяць,
Як я забылася...
Зараз жа тут яны будуць, зараз.

Нас абкладаюць звяры
Хмарай.
А мацеры ўсяго
двацццаць чатыры гадочкі —
Так мала.
«Ой, рэчанька, рэчанька»
Нядаўна спявала,
Сынка калыхала,
Другога чакала...

Вось і полымя ўспыхнула,
Як надзея,
Што нас ваўкі
Між сабой не падзеляць...

Маці сыпле ў вогнішча порах:
Яго сілы баіцца вораг.
Прыціхлі на міг ваўкі,
Адступілі,
Слухаюць пільна.
Потым завылі —
вусцішна гэтак зрабілася.
Здаецца,
зямля
і тая закалацілася.
Горлы дзяруць,
Наступаюць.
Маці пораху
ў вогнішча падсыпае.

Порах тае —
Дзічэе зграя...
І так мне балюча
і крыўдна стала,
Што сонца без нас,
Можа, заўтра ўстане,
І я, заплакаўшы,
Крыкнуў:
— Тата!
Дапамажы!
Дапамажы, тата!
І тут застрачылі
Кулямёты
і аўтаматы,
Усё навакол зараўло, загуло —
І ваўкоў нібы змяло...

Вір трывогі
Стаў зацягвацца
Тонкім лядком сну.
Дзесьці сонца
Расцвітала
Ружай у тумане.
Дзяцел лес будзіў —
Біў у сасну.
Па дзвярах, па змроку шэрым,
Ломячы яго ушчэнт,
Хтосьці раптам
Вяла зашэргаў.
— Божачкі, што яшчэ?!

Сон як рукой зняло.
Прыціхлі.
Не дыхаем як адзін.
Працікала колькі хвілін —
Рукі і ногі
аблыталa страху ціна,—
Адхінаецца коўдра-дзверы,
Заходзіць бацька,
Шэпат:
— Я ранен,
Але разлічыліся
З фашысцкімі звярамі...

— Татачка,
Ты прагнаў і ваўкоў,
Як добра,
Што вярнуўся дамоў...

V

У вайну сосны ў неба
Дазнаваліся вечна,
Хто з Радзімай
навек,
А хто нож
на яе навастрыў.
Помню,
Нізка прыгнуўшыся,
Стаяў
ля сасны налавечак.

Чалавечак?
Больш звер,
Па-звярынаму жыў і тварыў.

І страляў і паліў
Тых, хто думкай у лесе.
Разам рос,
Але быў
Зараз горшы, чым воўк.
За ўнука-героя
бабулю
на грушы павесіў,
У сям'ю камуніста
фашыстаў
уночы прывёў.
Сэрца ток працінае,
Хай толькі прыпомню,
Як за ножкі дзяўчынку
ён з ложка сцягнуў.
Як жа маці прасіла:
«Пусці маю Тоню!» —
А ён
светлай галоўкаю аб сцяну...

От жа гад!
На якую работу наняўся!
Ну няўжо ж яго гэтак
Фашыст асляпіў!..
Колькі ты за ім, тата,

Тады паганяўся,
Сам быў ранены двойчы,
Яго ж — ты схапіў

У пярыне.
Пасля вернай службы.
За карак.
Паказаць яго
                    соснам суровым прывёў...
Партызаны прыдумалі
                              вылюдку кару,
Ды такую,
Каб нават і дух яго
Вецер адмёў...

. . . . . . . . . . . . .

Тата,
        сэрца тваё
                    болю шмат увабрала,
І жыццёвы агонь
Цябе многа паліў,
Але ўсё-такі рана,
Ой жа як рана
Ты у вечнасці чоўне
На ўзгорак адплыў...

VI

Слабее над хатай дымок,
А я ўсё стаю перад брамай.

— Дзень добры, сынок.
— Добрай раніцы,
мама.
І болей нічога
Не кажа мне,
І я маўчу анямелы.
Яна разумее мяне,
І я яе разумею.

Гляджу,
Як сляза
Па шчоках яе
Плыве,
А за ёй — другая,
Ціха па сэрцы маім плыве,
Хістае зямлю
Пад нагамі...

Я ведаю, мама,
У пяцьдзесят
Як цяжка,
Як горка быць удавою.
Вы разам садзілі сад,
Ён вырас —
І свецяцца яблыкі
Над галавою.

І дзе ты ні пройдзеш,
Ні станеш, ні сядзеш —
Зачэпішся,

Як за галіны,
За справы,
Сляды яго,
Успаміны...

VII

Помню,
Марознай
Была зіма.
З зямлянкі не высунуць носа.
Ні кажуха у людзей,
Ні валёнак няма,
Людзі босыя.

Ды ўранку з саней
Па сяле «экспрэс»
Цягнуўся, марудны і доўгі:
Ехалі з бацькам
Жанкі у лес
Сосны валіць
Для будоўлі...

Хай слабымі
Ад бясхлеб'я былі,
Хай холад паліў невыносны,
А ўсё ж з роднага лесу
У сяло плылі
Сонечнымі праменнямі
сосны!

Нічога,
Што холад і здзічэлы мароз
Пагражалі труною,
Забіваў дыханне
Туберкулёз,
Ды пахла сяло сасною!

Адзін за адным
Зачынаўся зруб,
А гэта ж не грызці арэшкі!
І у жанчын
У куточках губ
Расцвіталі усмешкі...

. . . . . . . . . . . .

Я сёння
  ў цёткі Улляны госць.
У цёткі Улляны
Чарка ёсць,
Яна мяне,
Быццам бацьку, частуе
І сама яшчэ трошкі каштуе.
Хваліцца:
— Хата,
  як звон, мая,
Ні шашаль,
Ні час не точаць.
Ставіць мне
  на калені баян
І песню паслухаць хоча.

— Якую ж песню?
— Што бацька любіў.
І я засвяціўся поўняю,
І з сэрца паплыў
Ручайком матыў:
«Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты не поўная...»

VIII

У вёсцы маёй у спякоту,
Калі не прагоніць смагу і сырадой,
Ля кожнай рабіны,
Ля жывога
бярозавага плоту
Калодзеж напоіць заўсёды
Крынічнай вадой.

Вынесе конаўку кабета —
Белую,
Лёгкую,
Як з тумана,
І ты прастаіш
ля калодзежа
да абеда
І ўсё табе будзе здавацца:
мала,
Бо такая смачная вада,
Так прыемна
Цябе яна нахалодзіць...

Бацька ўмеў тое месца ўгадаць,
Дзе трэба капаць калодзеж.
Бацька сэрца укласці мог
У гэту работу.
На дне калодзежа
Калянеў і мок,
А зверху глядзелі на яго,
Як на бога.

Ніхто не ведае,
Што ён там рабіў,
Якую жылу шукаў ці клікаў,
Толькі кожны,
Хто потым з калодзежа піў,
Гаварыў пра бацьку
З любоўю вялікай...

Добра помніцца,
Як тады
Голад з торбай
хадзіў па краі.
Нас абыходзіла скварка
І хлеба акраец,
Але, дзякуй бацьку,
Хапала вады!
Калі дыміліся ад гарачыні
Мужчыны, абчэсваючы бярвенні,
Мы на іх гарачыя спіны лілі
Дожджык з вядра,
Нібы з хмаркі вясенняй.

З якой ахвотай
Нагрэтай на сонцы вадой
Кветкі мы палівалі
Духмянай і душнай
Вячэрняй парой,
Каб тыя не вялі!

А самі хварэлі,
Гарэлі агнём,
Прытомнасць трацілі —
Прыпадалі да конавак,
Каб не развітацца з жыццём,
Вуснамі гарачымі...

IX

І у зямлянках
Пагулянка
На свята ў кожнага была,
І балалайка,
балалайка
Душу маланкай
Апякла!

Яна у бацькавых руках,
Нібы ручай
Пад сонцам веснім,
Свяцілася,
Звінела песняй
І сэрца клікала у шлях!

Яна смяялася зычліва,
І рытм няхітры,
Як віхор,
Выносіў з-за сталоў імкліва
Усіх.
І кожны быў — танцор!

І гарачылі ўсіх прыпеўкі,
І гэты смех
Усім быў люб.
Іх пасля ў полі пелі дзеўкі,
Пачуўшы іх,
Смяяўся луг...
Была...
Свяцілася...
Звінела...
Не чутна
Музыкі цяпер.
— Без бацькі сумна нам, павер,—
Гаворыць цётка мне Алена...

Я слухаю жанок,
І раптам
Аж затрымцела сэрца жаўруком:
Мелодыя
Вясновым дожджыкам накрапвае,
І вось ужо яна,
Як першы гром,—
На прызбе клубнай
Пад ясенем,

Што прадзед яшчэ пасадзіў,
Пяюць хлапчукі пра Яся,
Што канюшыну касіў...

Пяюць ва ўнісон,
З любоўю,
І разам.
Я сэрцам
Маўкліва
Іх спеў прывітаў
І, здзіўлены,
Чую:
Прарэзаўся раптам
Другі галасок
І гармонію даў.

Звініць,
               як сініца,
І столькі ў ім сілы,
Прастору
               і шчырага пачуцця,
Што хочацца крыкнуць:
— Хлопчык мой мілы,
Вёскі маёй
Дарагое дзіця!

Табе падуладна
Гармоніі тайна,
Твой голас, як сонца,
Ён грэе душу.

Я веру ў твой талент
І вельмі прашу —
Вазьмі балалайку:
У струнах чароўных
Спяць золакі,

Ветру напеў
І зара,
Усплёскі маланак,
Усмешка
І роздум...
Ты будзеш іграць,
Будзеш добра іграць!

Маўчаць не павінны
Дзівосныя струны,
Без музыкі вёска —
Не вёска, павер.
Не будзе ўраджаю
Без добрае руні,
А ты — гэта рунь,
Ты — надзея цяпер!
Я зычу,
Каб шчасце тваё урадзіла,
Каб крыллем тваім
Сталі вёска,
зямля,
Каб вуснамі маці
Сказала Радзіма:

— Ты шчасце маё
І апора мая!..

X

Тата,
сёння такая нядзеля!
Светла.
Цёпла.
Прастор
ад песень птушыных аглух.
Я ўзяў касу тваю,
Боты твае
надзеў я
І, як адзінокі бусел,
Выйшаў на луг.

Добра,
Пакуль раса не апала,
Каса пагуляла
У хрусткай траве,
А зараз
Зрэзаўся клёп.
Сеў адпачыць,
Як цябе,
тата,
Мне не хапае
Не толькі на лузе
Ля гэтых пракосаў
і коп.

Не хапае звону
Тваёй сякеры,
Не хапае шуму
Добрай пілы старой,
Тых шчаслівых хвілін,
Калі адчыняеш дзверы,
Прыходзячы з працы
Вячэрняй парой.

Не хапае дыму
Ад тваёй папяросы,
Не хапае святла,
Што ў вачах тваіх,
Слоў, дзе,
                    як зерне ў арэхах,
Роздум,—
Як не хапае іх!

Вось бы з табою
Нам зараз пад слівай
Дома сядзець
Да вячэрняй зары.
Маці глядзела б
На нас шчаслівая,
І я б з хваляваннем
Табе гаварыў

Аб тым,
                што ў сэрцы...
І што трывожыць...

Што завяліся ў нашым сяле
Людзі,
Што прызнаюць толькі грошы,
А дабрату чалавечую — не.

Гэткі
        і з месяца не сойдзе без платы.
Хай частаколіну
Недзе прыбіў —
Чуеш ужо
Яго «выраз крылаты»:
— Вось на «чарніла» і зарабіў!

Дрэнна,
        што ён усё зводзіць на грошы,
Пэўна,
        за іх зможа лёгка аддаць
Роднага неба зоры-гарошак
І салаўіную сенажаць...

Ты ж,
        тата,
                пра грошы
Не думаў ніколі,
І мы у зямлянцы
Галоднай парой
Чакалі рук тваіх,
Што пахлі полем,
Салодка-гаркавай
                        пахлі зарой!

Чакалі рук тваіх,
Што, як праменні,
Да лёсу аднавяскоўцаў ішлі.
Ад іх цеплыні
Мы душою прамелі
І з домам сваім
На руінах раслі!

Чакалі вачэй тваіх,
Дзе гарэла
Новая доля ўсяго сяла,
Чакалі слоў,
Што былі
як рэха
Працы вялікай,
Што ў Заўтра вяла!..

Як цябе,
тата,
Мне не хапае,
Як не хапае
Цябе другім...

Ужо каса палягчэла.
Чакае
Крокаў маіх
Недакошаны клін...
Тата,
Прыйду да цябе я
і ўлетку,

Скрозь шэпат дажджу,
Скрозь сняжынкавы звон.
Толькі і ты не забудзься,
Хоць зрэдку,
Помніш?
Прыходзь да мяне
Хоць бы ў сон.

3 Зак. 282

Багаты я тваім, Радзіма, хлебам
І цішынёй над мірнаю зямлёй,
Усмешкай сына, як вясновым небам,
А значыць, і усмешкаю тваёй.

# ВЕРШЫ

## БАЯН

Я ніколі б у рукі не браў
Свой баян,
Каб не змог з ім зрадніцца.
У ім не клавішы, шэпат траў,
Спеў жытнога
І плёскат крыніцы.

Жаўруковае неба яго
Вечна думкам маім адгукнецца.
То не гукі —
Агонь,
Што сагрэе сэрца...

Мой баян.
Ён трымае мяне ля бароў,
З жытнім полем
не дасць размінуцца.

Мне на плечы,
Як рукі сяброў,
Рамяні яго
мякка
кладуцца.

## УСПАМІН ВЕТЭРАНА

Над дрыготкаю дубровай,
Па-над хваляю шумлівай
Напусціла неба бровы,
Захадзіла, быццам ніва.

Задрыжалі краскі, лісце...
Гром прабег па гулкай хаце,
Светлы дождж прытуліўся
Да зямлі,
Як сын да маці.

Пад лагоднымі вятрамі,
Пад грымотным небам колкім
Запяклі старыя раны,
Варухнуліся асколкі...

* * *

Сын у школу пайшоў —
Да сямі недаседзеў:
Казкі ўсе прачытаў
І мультфільмы прагледзеў,

Навучыўся у шашкі
Абыгрываць бацьку і маці.
Як да сонца жаўрук, паляцеў,
Паляцеў, што й казаці.

Я гляджу яму ўслед,
Праз слязу
　　　　　　бачу свой сорак шосты,
Як у школу-зямлянку ішоў
Басаནож. Перарослы...

Калі б хто ў нас спытаў,
Кім жа мы хочам стаць?
Пойдзем, можа, ў пілоты?
Нас бамбілі ў вайну —
Ненавідзелі мы самалёты.

Не любілі мы і машын,
Бо на іх прыязджалі фашысты
І спалілі наша сяло
Ўсё дачыста...

Сын у школу пайшоў
Шырокім і светлым гасцінцам.
Я даўно зразумеў:
Не было ў нас дзяцінства.

Не было?
А хіба гэта мы адчувалі?
Мы смяяліся,
плакалі,
Калі насы разбівалі...

Сын у школу пайшоў —
Ярка сонца
над ім залаціцца.
Хай жа свеціць яму і яго,
І маё, і матулі дзяцінства!

* * *

Са сваёй былою вучаніцай
Я сустрэўся —
Двойня каля рук,
Хлопчык і дзяўчынка-шалаўніца,
Ножкі пазбіваныя аб брук.

І чамусьці я адразу ўспомніў,—
Колькі год назад, нібы сягоння! —
Да мяне у пяты клас прыйшла
Дзеўчынка з суседняга сяла:
Ножкі пазбіваныя і босыя,
Непаседа.
Галасок-званок,
Гэткая курносая, курносая,
Што курносым робіцца урок...

А яшчэ прыпомніў, як Талстога
Мы праходзілі ў дзесятым «А»:
Цалавалася Растова,
А у класа — кругам галава.

А яна дзівацтву пасміхалася,
Быццам не трывожыла вясна,
І калі, бывала, дазнавалася,
Што яе сяброўкі цалаваліся,
Як іх ненавідзела яна!..

Вось мы з ёй стаім.
І нам сягоння
У завеі мілых «мама...» «мам...»
Радасна свой клас,
Растову ўспомніць...
Светла нам...

* * *

Мусіць, добра, мама,
Што ты і не ведаеш,
Што пасля таго,
Як праводзіла мяне за веснічкі,
Я вяртаўся у снах
Кожнай ночы
У раніцу маладзіковую,
Што вісела на нітачцы дыму
З нашага коміна,
Вяртаўся да нашай рабіны,
Што яшчэ з бацькам калісьці садзілі,
Вяртаўся да градак,
Не маімі рукамі ўскапаных,
Вяртаўся да сэрца твайго,
Калі мне балюча было...
І, мусіць, добра,
Што ты і не ведаеш,
Што пасля таго,
як праводзіла мяне
за веснічкі,
Я вяртаўся у снах
Кожнай ночы
У раніцу маладзіковую,
Што вісела
на нітачцы дыму
з нашага коміна,

Бо, каб ведала,—
Папракнула б:
А чаму ж не забег
За руку павітацца...

## БАЦЬКАВЫ РУКІ

А мне яно вечна рупіць:
Схіліць чало нізка-нізка
Прад вамі, бацькавы рукі,
Бо вы мне былі калыскай.

Калі мы хацелі бачыць
Шырэй і глыбей свет узнёслы,
Былі нам рукі бацькавы,
Нібы высокія гнёзды.

А нас паклікалі далі
Ў глыбіні чароўных нетраў,
Нам рукі бацькавы ззялі,
Нібы для жаўранкаў неба...

Для лёсу нашага вечна
І сілай быць вам
                    і зрокам,
У спёку —
          ласкавым ветрам,
У сцюжу —
          цёплаю зоркай!

## СУСТРЭЧА З СЯБРАМ

Зару запалілі
Суніцы ў бары.
Прыйшоў да цябе я,
Лес — дружа стары.

Напэўна, мяне ты
Зусім не пазнаў?
Ды бачу, ўздрыгнулася
Раптам сасна,

Як матчыны рукі,
Галіны яе
Крануліся шчок маіх,
Вуснаў,
павек...

Сасна,
Гэта ты,
Дарагая, ў вайну
Дзяцінству майму
Прыкрывала спіну!

Пад голлем тваім
Мох калыскай мне быў,
Над болем і сном
Шум ласкавы твой плыў...

Шумі, дарагая,
Пад яснай зарой
У думах маіх
І у песні маёй!

* * *

Сын быць не хоча
У «зялёным» лагеры.
З ім пасля школы
Кожны год вайна.
А мы —
        малыя —
З лесу не вылазілі,
Была знаёмай кожная сасна.

Я помню,
Партызанская зямлянка,
Што да вачэй
                схавалася ў зямлю,
Адводзіла
            ваенныя маланкі,
Што цэліліся
                ў нашую сям'ю.

Калі фашысты лезлі
                    ў час блакады,
Ішлі аўчаркі
Нас перапавіць,
Лясным мы нетрам
Гэтак былі рады,—
Той час успомню —
Сэрца забаліць...

А плакалі
ля маці
ад знямогі,

Вадзіў нас
Люты голад у бакі —
Працягвалі нам
Рукі дапамогі
Абабкі,
Казлякі,
Баравікі...

Нам лес быў
і кашуляю, і хлебам,
Жывою думкай, шчырым пачуццём.
Ты, сынку,
і не ведаеш, што лесу
Сваім ты
абавязаны жыццём!..

## ЛІПА

Каб выкраіць лапік зямлі,
Гаспадар новы зрэзаў ліпу.
І як ён забыўся,
Што яшчэ прадзед яго,
Як быў дзіцянём,
Гушкаўся ў спёку
пад голлем яе ў калысцы.
Што ліпа мёдам паіла,
Прастуду лячыла,
Голле сваё абпаліла,
А дом у вайну зберагла...
Гаспадар новы зрэзаў ліпу...
Дрэнна
без памяці
жыць чалавеку...

* * *

Не першая ужо
У нас зіма,
Як снегу
і марозу ўсё няма.
Завалы лыж,
і санак,
і канькоў
Чакаюць снежных,
ледзяных дзянькоў,
Касцюмы лыжныя —
браткі,
набор які!
Чакаюць снегу ўзорныя вазкі,
Валёнкі,
кажухі...
Яго ж няма —
Без снегу
і марозу ў нас зіма,
Нібы яе калісьці праклялі,
Як босыя
з зямлянкі
ў клас ішлі,
Калі без паліто, без рукавіц
Мы стылі ў пекле
снежных навальніц...

4 Зак. 282

* * *

Жураўліны нарог пад вечар
Прайшоў па нябесным глеі —
Баразёнкаю разаранай
Млечны Шлях бялее...

## ВЯСКОВЫ МУЗЫКА

Колькі помню дзеда Гіляра,
Ён усё іграе.
Як іграе!
То у гуках майская зара,
То мароз заядлы прабірае.

От жа ўмее!
Быццам бы клубок
Кіне — і мелодыі сцяжына
Павядзе у лес,
на бугарок,
Дзе грыбы
І спелая ажына.

Да зязюль
у снежні завядзе
І адкрые тайны-таямніцы,
Дзе русалкі плешчуцца ў вадзе
Пры святле зялёным
Лозаў ніцых.

Правядзе з балота ў цень сасны,
У год сорак вогненна-блакадны,
А то
Ў сорак-попельны:
Адны штабялі сасны,

Як барыкады...
І сягоння ўвечар выйшаў ён,
Як зайграў,
Пайшлі жанчыны тупаць.
Выключае свой магнітафон
Век наш
Ды ідзе яго паслухаць.

## БУЛЬБА

Гэтулькі плуг бульбы наварочаў!
За гадзіну пастараўся так,
Што у ёй заселі мы да ночы —
Выхадцы з сялянаў як ніяк.

У барознах
Пагублялі боты,
Целагрэйкі паздзіраў з нас плот.
Над гарачай
Нашаю работай
Выступілі зоркі,
Быццам пот...

Як падковы,
спіны пасля працы
Разагнуць ніяк мы не маглі...
Ну а як жа,
Як працуе маці
Век увесь у вёсцы,
на зямлі?!

У яе не з неба там каўбаска,
Малачка там знойдзеш, першачка...
Маці ў танец пойдзе —
Калі ласка,
Малады, станцуй так
«Крыжачка»!..

Бульба!!!
Добра,
          што ты ёсць на свеце!
Не давай забыць нам мазалі,
Выбівай з нас асцюкі і смецце
І трымай бліжэй нас
                              ля зямлі!

## ВЕЧАР

Адпрацаваў хлебароб
Дзень вясенні,
што корміць год,—
Ідзе
па-гаспадарску спаважна ён,
Рукі ад стомы важкія.
Свецяцца
небам сонечным вочы,
Радасць крынічкай
у сэрцы плюскоча...
А вечар цёплы
Палае макам,
Хор птушыны
песню вядзе —
І ўсё гэта як падзяка
Хлебаробу,
Што з поля ідзе.

* * *

Сонечнай сівізною
Сталасць святая світае —
Гэтак нарог вясною,
Пахадзіўшы ў зямлі,
зззяе...

* * *

Якому дурню свет далі зрабіць,
Які мы ўсё жыццё перарабляем.

*Максім Танк*

Думаю: навошта запалкі людзям?
Хай бы кожнаму служыў
Агонь свайго сэрца:
Няма яго — мерзні.

Няхай бы ежай была
Карысць,
зробленая адзін аднаму,—
Цікава,
колькі б балбатуны пратрымаліся?

А калі б свяцілам былі думкі:
Светлыя — светла,
Цёмныя — цёмна,—
Многія б так і не ўбачылі
Весняй красы
і нябеснай сіні,
Але, пэўна,
не ведаў бы свет тады
Трагедый Сангмі і Хатыні.

* * *

Не заўсёды і зловіш,
Нібы рыбу ў вадзе,
Тое самае слова,
Што ў глыбіні вядзе.

Бо яно ж, як крыніца,
І адбіўся у ім
З палахлівай зарніцай
Гай світаннем сваім.

Неба ў ім палыхае...
Сіні колер звініць,
Нібы песня кахання
З высокіх званіц...

Шырыня ў ім на дзіва,
Глыбіня — ад віроў...
Як дыханне Радзімы —
Цёплы пах каласоў...

* * *

Мне не спіцца.
Галава,
нібы цэбар рассохлы,
развальваецца.
А за тонкаю шырмаю
Сябра мой ходзіць.
Чуваць,
як стракозамі
Шыпяць запалкі чырвоныя,
Як дыхаюць дымам куслівым
гарачыя папяросы...
Я вывучыў яго цяжкія крокі —
Мусіць, зноў яму не паверылі,
Сыпанулі ў вочы
Пяском недаверу
Ці проста,
як малога,
пацягалі за вушы?..
Галава,
нібы цэбар рассохлы,
развальваецца.
А за тонкаю шырмаю
Сябра мой ходзіць,
Верны і вечны сябра мой —
сэрца.

## ІСКРА

Пагрэўшыся і пакалеўшы
Ля сэрцаў людскіх
і ў адкрытую
і крадком,
Я добра зведаў цану
не толькі вугельчыку,
Нават іскры,
Якая можа загаварыць
полымя языком.

* * *

Згаджаюся з думкай:
На паплавок
Падобна маё летуценнае сэрца —
Трымціць над карчамі,
Над лёгкай травой,
Дзе рыба халодная
срэбрана ўецца.

Нырае,
як куля,
у цемру вады,
І лёска пад грузам,
бывае,
парвецца,
Ды звяжаш яе,
Зноў закінеш туды...
Вось так і жывецца.

## НАСТРОЙ

У чалавека добры настрой,
Чалавек усміхаецца.
Настрой —
як салавей світальнай парой,
На промні усмешкі гушкаецца.

Яго музыкай
зачараваны я,
Свет увесь
сонцам праменіцца!
І раптам —
о божа! —
У салаўя
Нехта ўжо цэліцца...

* * *

Зноў кланяюся
                    родным бальшакам!
Ніхто ў мяне
Тут каменем не кіне.
Свае спяваю песні землякам,
І ціха падпяваюць
                    землякі мне.

Я свой тут людзям,
Лесу,
    што ў зару
Зайшоў
    і аж дрыжыць ад хвалявання.
Я з неба
Зоркі цёплыя бяру,
На ноч
    дае мне Пціч пярыну хваляў...

Я ведаю,
Каб ты вось тут жыла,
Кім быў,
    нібы вясна чаромхай, п'яны,
Ніколі і не сплыў бы я з сяла,
Як гук кароткі
З клавішаў баяна.

* * *

Калі захварэю —
Ты не хадзі
Шукаць розных зёлак
У лузе за вёскай,
У шумным бары,
Каля ціхай Пцічы,
Ля хаты,
дзе жоўтыя свецяцца восы.
Ты родную песню
Мне заспявай:
Яна абляцела ўвесь край
мой прыгожы
І зёлкі сабрала.
Калі ж...
Ну, тады
Нічога ты ўжо не шукай.
Не паможа!

## ВЕРНАСЦЬ

Я здрадзіць не змагу ніколі
Ні словам тым, ні той зары,
Што нас вадзілі над ракою
Па салаўіным гушчары.

Бо там душа мая, паверце,
І там жыццё маё бяжыць,
І мне без іх на белым свеце
Хвіліны нават не пражыць.

Без іх і сонца ў небе згасне
І замяце усё зіма.
Без іх ні рэк, ні зоркі яснай
Ды і мяне няма, няма...

5 Зак. 282

# ІДУЦЬ КАРОЎКІ З ДУБРОЎКІ

(з народнага)

Ідуць кароўкі [redacted] дуброўкі.
Галя ў двор выбягае:
А наперадзе іх сягоннейка
Ды кароўка якая?

Няхай цёмная толькі
Не выходзіць наперад,
Бо назаўтрае дождж разыдзецца —
Майму сэрцайку верад.

Не хачу, каб рабая
Ішла першая [redacted] поля,
Бо назаўтрае будзе раніца,
Ох, ні сёе ні тое.

Хай жа светлая першай
Ідзе з поля кароўка —
Заўтра з міленькім
Цёплым вечарам
Будзем слухаць салоўку.

## ЛЕС

Халодны зімні лес,
Маўчыш?
Маўчыш,
На крыллях трапяткіх мяне імчыш
Па піках сосен,
Па іржэўніку іглiц
Пад град арэхаў
У агонь сунiц...

Баліць мне, чуеш?
Хочаш памагчы
Мне гэты боль забыць,
перамагчы?
Мой мілы дружа,
Добры лесе мой,
Павер,
не зелянець
траве зімой,

А боль мой не палечыць успамін!
Што яму тыя некалькі хвілін
З тых дзён,
З тых свят,
Што ўжо былі, былі...
Яны, як краскі ў лузе,
адцвілі...

* * *

Рукі твае цёплыя,
нібы кастры.
Стома адпачыць ля іх
Так любіць,
Калі сіняя мяцеліца
ў вачах гарыць,
На марозе
пунсавеюць губы.

Колькі чысціні ў іх,
дабраты!
Хмеляць яны думкі
Сілай хлеба,
Рукі твае цёплыя,
Нібы кастры,
Светлыя,
ласкавыя,
як лета...

## СЛУХАЮЧЫ «ПАЭМУ» ФІБІХА

Заўжды чаруе
Фібіха «Паэма».
Прыслухайся —
дыханне стоіш:
Там,
як возера
У серабро бяроз,
Б'е хваляй фартэп'яна.
Там скрыпка,
Быццам неба ў час паўночны,
Палае зорным полымем.
А вецер
З лугоў пакошаных
Распальвае мацней
Пажар дзівосны...
Але за ўсё мілей там
Чалавечы голас,
Што б'ецца паміж небам і зямлёй...
Каханне,
Гэта ты!
Зямля і неба —
крылы твае!
Вечнасць —
тваё дыханне,
Гэты дзіўны голас!
Праходзім па зямлі

Мы ўсе
з тваім агнём,
Кладзёмся пад рабіны
і пад сосны,—
Ты толькі вечнае
І ты для нас, як міг,
Чароўны міг,
які жыццём завецца!
Таму і даражым
мы ўсе табой,
Нібы глытком вады
У час, калі ад смагі
Згараюць вусны...
Таму мы без цябе
І шчасце не спазнаем,
Бо шчасце —
гэта міг,
Кароткі,
Як і ты...

* * *

Я цябе люблю,
Як песню шчырую,
Нібы летняй раніцы пару,
Нібы ластаўку,
Што з выраю
Прылятае ў родную зару.

Я табой
адною
ганаруся,
Бачу я ў вачах тваіх адзін
Сінь нябёсаў
роднай Беларусі,
Чысціню глыбінь...

* * *

Дзень каласком
Выплываў над зямлёй,
Калі з песняй адвечнаю
Птах ураніў з неба
кроплю вясны,—
Луг запаліў ён зялёным агнём,
Клёны гарацъ,
І ўвесь я ў агні,
Невядомым агні
гэтай дзіўнай вясны.

Грэеш мяне,
нібы птушак вясна,
Неспазнанае вогнішча
першых трывог,
Летуценных надзей...
Гэтак гучок
Чуе першы лісток,
Чуе траўку зямля,
Далячынь —
жураўля...

* * *

Цябе сустрэў —
І свет інакшым стаў:
Здаецца, нават сонца пацяплела,
Іначай хор птушыны заспяваў,
Бярозка ў міг адзін зазелянела!

Свет зіхаціць
вясноваю красой,
Да слёз кранае
росная былінка!
Я гладжу ў лузе
кожную травінку,
Нібы яна напоўнена табой...

Увесь пяшчоты поўны і святла,
Я адчуваю:
вырастаюць крылы...
Я дзякую,
Што да мяне прыйшла,
Зямлю
І неба
з сонцам
падарыла!

* * *

Ты — летняе сонца
У небе маім,
Я ж толькі маўклівы
Сланечнік пад ім.

Лаўлю кожным зернеткам
Лецейкаміг.
Ты свеціш, я спею —
І мы удваіх.

Нам нельга расстацца,
Пакуль я жыву,
Пакуль над зямлёю
Нясу галаву.

* * *

Усе сцежкі зіма замяла,
Неба снежнае з полем звяла,
Пасінелы, пагрэцца залез
У кудлатае воблака лес.

Ні азёр не відаць, ні ракі,
Ні чырвоных праменняў ракіт...

Ды прыслухайся: каля іглiц
І зімой чуцен голас сініц,
І крынічка пад снегам не спіць —
Нібы летам, бурліць і звініць...

Ды і сэрца парой ледзяной
Б'ецца так, як калісьці вясной!

* * *

Асыпаюць жоўтае лісце
Нядаўна зялёныя дрэвы
На зямлю,
пабялелую ад халадоў,
Што не дрэмлюць.

Асыпае вырай асенні
Тужлівыя крыкі,
як лісце,
Крыкі,
што гоман ніў і лугоў
Абуджалі калісьці...

Непакоюся.
Слухаю сэрца...
А тужліва-пажоўклыя дрэвы
На зямлю,
пабялелую ад халадоў,
Сыплюць лісцяў бярэмы...

## Я ВЕРШЫ НЕ ПРЫДУМВАЮ

Я вершы
не прыдумваю свае.
Іх рытм —
то крокі
стомленыя маці,
Якая ўсё шчыруе на сяле,
Адна жыве
ў пасляваеннай хаце.
Для рыфмы мне
само сабой ідзе
І сэнс нясе
сумленна і ахвоча
Усё,
што плача,
стогне і гудзе,
Смяецца,
льецца,
радавацца хоча.
Таму і дарагія мне яны.
Я іхні донар.
А патрэбна будзе,
Усё, што маю,
шчыра,
без маны
Я ім аддам,
Хай толькі служыць людзям.

Мяне вучыла роднай песні вёска,
Што перанесла страшную вайну.
Мне змалку песня стала блізкай, свойскай,
Як шлях у шчаўе, шлях у збажыну.

# ПЕСНІ

## ПЕСНЯ РОДНАЯ

Цёплая, нібы вясны світанне,
Светлая, як вераснёвы сум,
Песня родная — маё каханне,
Я цябе ў душы сваёй нясу.

Слухаю — і чую голас маці,
Бачу яе рукі наяву,
Хмельны звон знаёмай сенажаці
Кружыць, як калісьці, галаву.

Шчырая, як праўда майго краю,
Свецішся ля рэчак і лугоў,
Сэрца полымем сваім кранаеш,
Як вясны дыханне і любоў.

## ЯКАЯ ТЫ ЦУДОЎНАЯ, РАДЗІМА

Бярозы ў нас вакол, як у Расіі,
Адно і неба і шляхі у нас,
І, як па ўсёй Радзіме, вецер сіні,
І гэтакая ж сіняя вясна.

Я тут, пад гэтым небам, нарадзіўся
І вымаўляю з гордасцю услых:
Якая ты цудоўная, Радзіма,
Нібы матуля, родная для ўсіх.

Ніколі б у змаганні не ўстаяла
Ты без Расіі, без сваіх сясцёр,
Старонка светлазорная Купалы,
Мой светлы край між казачных азёр.

Нямала сцежак і дарог схадзіў я —
І ўсюды славен дружбай чалавек.
Адна ты ў нас, вялікая Радзіма,
Дык будзь жа благаславёная навек.

Я тут, пад гэтым небам, нарадзіўся
І вымаўляю з гордасцю услых:
Якая ты цудоўная, Радзіма,
Нібы матуля, родная для ўсіх.

## АСЕННЯЯ ПЕСНЯ

Зноў у золаце дрэвы,
Як сонцы, гараць,
Жураўлі касякамі
Плывуць над азёрамі,—
Як пра цябе,
Мне скажы, не спяваць,
Мой край,
Апавіты легендай і яснымі зорамі!

На крамяных далонях тваіх каравай,
Нібы шчасце ў вачах маладое,
Праменіцца,—
Як не спяваць
Пра цябе,
Родны край,
Калі ў кожнай жылцы маёй
Радасць восені свеціцца!

Я люблю, як шуміць твой
Густы лістапад
І вясёлыя хаты
Вяселлямі рояцца,—
Песня сама
Вылятае ў прасцяг,
І неба адразу
Ёй блізкім і родным становіцца!

## ЦЕПЛЫНЯ

Спяць у стагах і цеплыня і лета,
А золкі дождж блукае не у снах,
Ды цёпла мне, табою я сагрэты,
Радзіма — мая вечная вясна.

Сагрэты я тваім, Радзіма, хлебам
І цішынёй над мірнаю зямлёй,
Усмешкай сына, як вясновым небам,
А значыць, і усмешкаю тваёй.

Сагрэты я цяплом далоні шчырай,
Сяброўскім словам, як самой вясной,
І нават хмарак схаладзелы вырай,
Нібы цяпло чаромхі, нада мной.

6 Зак. 282

## ЗОРКА ВЯСЕННЯЯ

Гарыць настрой вечаровы
Той першай зоркай вясенняй,
Што цепліць светлы розум
Пад спеў птушыных аселіц.

Мой край, які ты прыгожы
Парой вясны летуценнай,
Калі з двароў і гоняў
Збягуць чароды мяцеліц!..

І сум,
І боль снегам таюць,
Вясна душу шчасцем росіць...
Здаецца, што прарастаю
Жывым лістком на бярозе...

## БЕЛЫ КАРАБЛІК

Калі загуляе ў палях ручаёк
І звонка сальецца на міг з жаўрукамі —
З яго усміхнецца дзяцінства маё,
Што белы караблік калісьці пускала.

Прыпомняцца мары, прыпомняцца сны...
Як горда бацькоўскія шапкі насілі,
Прапахлыя порахам страшнай вайны
І ўсімі дарогамі любай Расіі!

Караблік надзеі юначыя вёз
У дзень, што, як горад вялікі,
нам сніўся,
Нібы чысціню нашых родных бяроз,
Як зелені шчырасць, упартасць крыніцы...

Таму, калі ўспыхне ў палях ручаёк
І звонка сальецца на міг з жаўрукамі,—
З яго усміхнецца дзяцінства маё,
Што белы караблік калісьці пускала.

## ПРЫХОДЗЯЦЬ ДЗЯЎЧАТЫ БЯРОЗКАМІ

Калі вясна вяртае нам цяпло,
Красу палёў і хараство зары,
А ластаўкі світальнае крыло
Запальвае зялёныя кастры,

Тады чамусьці думаецца мне,
Што і бярозкі к нам вясной прыйшлі
Дзяўчатамі, што палі на вайне
Далёка ад бацькоўскае зямлі...

Мне перад іх шчымлівай красой
Ніколі хвалявання не суняць —
І хочацца ясенінскай рукой
Крануць іх косы, тонкі стан абняць...

Дзяўчаты к нам бярозкамі прыйшлі,
Прыйшлі да родных сцежак і крыніц
Паслухаць, ці спакойна на зямлі,
Сваіх харошых хлопцаў далюбіць.

## БУСЛЫ

Каля вязаў на шляхах вясны
Зноў чаруе дзіўны светлы клёкат —
То дамоў вярнуліся буслы
З шэрых туманоў краін далёкіх.

Пасвятлела раптам на зямлі,
І дыхнула неба цёплай ласкай,
І усюды,
дзе буслы прайшлі,
Зелень маладая занялася...

Веру я легендзе між людзей,
Як сябрам або праменням веснім,
Што буслы прыносяць нам дзяцей,
Што калісьці і мяне прынеслі:

У мяне ж і ў іх любоў адна,
І на ўсё жыццё адна ў нас вернасць
І лугам Радзімы, і барам,
І азёрам, і надрэчным вербам!

## НЕДЗЕ Ў КОЖНАГА З НАС...

Недзе ў кожнага з нас
Каля возера,
Між лугоў,
Ля вясёлых бароў
Ціха маці жыве, што праводзіла
Нас, як у вырай, світальнай парой.

Як праводзіла — сонца ўзыходзіла,
Салаўіная радасць цвіла.
З той вясновай пары, дзе ні ходзім мы,
Шмат і песень у нас і святла.

З той пары,
Дзе б з табой ні хадзілі мы,
Пабылі каля сонца і зор,—
Але грэў нас ласкавай Радзімаю
Матчын той незабыўны прастор...

Ты нам, мама, як сонца вясновае
У зялёных сумётах лясных,
Кожны дзень дарагое і новае,
Асвятляеш трывогі і сны.

## РОДНЫ ГОРАД

Дождж прабег праспектамі і скверамі —
Зіхаціць мой горад серабром.
Пахне ранак ліпамі і вербамі,
Дзесьці за лясамі спее гром.

А на Плошчы б'е у сэрца хваляй
Полымя свяшчэннага агню,
Чысцінёй святою сагравае
Неба і зялёную зямлю.

На зямлі даўно ўжо зараўнялі мы
Рвы, дзе смерць насілі крумкачы.
Там цяпер пшаніца ходзіць хвалямі,
Дзе хадзіла помста уначы...

Родны горад над світальнай рэчкаю,
Мне няма мілей тваёй вясны.
Бачаць сны ў святле зары парэчкавай,
Залатыя сны мае сыны.

А на Плошчы б'е у сэрца хваляй
Полымя свяшчэннага агню,
Чысцінёй святою сагравае
Неба і зялёную вясну.

## ЖАНОЧАЯ ЛАСКА

Я помню юнацтва далёкія дні —
Птушыныя спевы
І росныя краскі.
Была для мяне, нібы зорак агні,
Дзявочая ласка,
Дзявочая ласка.

Любоў, нібы хваля, удаль не сплыве.
Глядзіш, ужо сын у далоні запляскаў.
На свеце, як сонца,
Жыла і жывеш,
Жаночая ласка,
Жаночая ласка.

Жыццё — не адзін толькі спеў салаўя.
Я, можа б, не раз несуцешна заплакаў.
Калі б не спагадная
Воля твая,
О матчына ласка,
О матчына ласка.

Крынічкаю чыстай струменяць гады,
І ты, нібы добрая, светлая казка,
Нябёсы і крылы
Нам дорыш заўжды,
Жаночая ласка,
Жаночая ласка.

## СІНЯЕ РЭХА

Ой, пад гаем рэчанька бяжыць,
Шмат вады, а боль не патушыць.
Выйду да гаю,
Рэха гукаю —
Толькі сіні вецер звініць.

Ці не можаш птушкай прыляцець?
Сінім рэхам мары абагрэць?
Шчасцем кахання
Аж да світання
Будуць зоркі нам мігацець...

Вырасце світанне з верасоў,
Быццам казка дзіўная ці сон.
Неба прыгнецца,
Нам усміхнецца
Цёплымі вачамі верасоў.

Ой, пад гаем рэчанька бяжыць,
Шмат вады, а боль не патушыць.
Выйду да гаю,
Рэха гукаю —
Толькі сіні вецер звініць.

## НАШТО ГЭТА МНЕ АДНОЙ

Ой, чаму такія вочы
Мне мамка дала,
Што глядзецца у іх хочуць
Ўсе хлопцы з сяла.

Дзе ні стану, дзе ні сяду —
Да мяне яны, як рой.
Вунь жа іншыя дзяўчаты,
Нашто гэта мне адной.

Ой, чаму такія ножкі
Мне мамка дала,
Што не могуць, каб дарожка
Ад бяды адвяла.

Дзе ні стану,
дзе ні сяду —
Хлопцы да мяне, як рой.
Вунь жа іншыя дзяўчаты,
Нашто гэта мне адной.

Ой, чаму такое сэрца
Мне мамка дала,
Што няма куды падзецца
Мне ад хлопцаў сяла.

Дзе ні стану, дзе ні сяду —
Да мяне яны, як рой.
Вунь жа іншыя дзяўчаты,
Нашто гэта мне адной.

## ПА ЯГАДЦЫ, ПА КРОПЕЛЬЦЫ

Па ягадцы, па ягадцы —
І ў лесе лета тае,
Па кропельцы,
                    па кропельцы —
І рэчка высыхае...

Я словам ціхім верыла,
Як лугу верыць каня,
Пад ліпамі, пад вербамі
Не раз цябе чакала.

Часіначкі салодкія,
Як ягада-маліна,
Не я збірала вечарам,
Хоць сэрцам іх спяліла.

І цвет чаромхі сонечнай
Не для мяне ламаўся,
А мне палын з дзядоўнікам
З усёй зямлі дастаўся...

Чаго ж цяпер ты журышся,
Чаго ты уздыхаеш,
Як быццам бы нічога ты
Не ведаеш, не знаеш?

Па ягадцы, па ягадцы —
І ў лесе лета тае,
Па кропельцы, па кропельцы —
І рэчка высыхае.

## СНЕГ

На золку выпаў снег!
Ты чуеш, першы снег!
А мне у твар твой смех,
Як раўнадушны снег.

Ідзём у чысты снег!
А снежань слоў тваіх
Халодзіць сэрца мне,
Завейвае дваіх.

У снежнае цішы
Цяпло, як па вясне.
З нябёс тваёй душы
Снег валіць на мяне.

Паверыць сіл няма,
Што ўся са снегу ты,
Маёй любві зіма
І сон мой залаты.

## ЗЕЛЕН ГАЙ

(з народнага)

Зелен гай падмяцён,
Зелен гай падмяцён,
Рутай-мятаю
Непрымятаю
Высыплён,
Высыплён.
А хто ж гай падмятаў,
А хто ж гай падмятаў?
Дзеўчына красная —
Зорка ясная
Падмяла,
Падмяла.
Хто ў дзяўчыны бываў,
Хто у краснай бываў?
Добры малойчык
Зорнаю ночкай
Гасцяваў,
Гасцяваў.
З ёю гай падмятаў,
З ёю гай падмятаў,
Дзеўчыну красную —
Зорку ясную
Цалаваў,
Цалаваў.

## АДНО ТОЛЬКІ СЛОВА

Ты ціхенька сказала мне: «Каханы»,
І гукі паўтарыліся ў бары,
І сонца, нібы звон раскалыханы,
Вызвоньвае мелодыю ўгары.

Над рэчкай засвяціўся золак сіні,
І вочы палымнеюць ад святла...
Ты і сама не знаеш, колькі сілы
Маёй душы і крылам ты дала!

Мне стала блізкім неба, быццам верас
У цёплым ціхім лесе за сялом...
Бо гэта слова я чакаў, як вербы
Або лугі чакаюць першы гром.

Вясна вакол палае ветрам сінім
І адганяе ўдалеч мой спакой...
Дало мне неба гэтак многа сілы,
Што ўсё на свеце я змагу з табой!

## ТЫ СА МНОЙ

Сіні золак адплывае.
Зацвітае
Край бяроз
і ціхіх клёнаў па вясне.
Памяць свеціцца —
Яна табой світае,
Я ізноў табой жыву,
І светла мне.

Помню.
Многа год праляціць,
Колькі згасне зарніц —
Не забыць
Той першай і той адной
Дарагой вясны маёй.

Ты на вуснах,
Як расінка
І як песня,
Як трывожная хмурынка і святло,—
Залатое жаўруковае прадвесне,
Што пастукалася ранenька ў акно...

## КРАПІВА

У віры зара спадае.
Ты ідзі сабе, ды знай:
Крапіва хоць маладая,
Але лепей не чапай.

Крапіва хоць маладая,
Ды гарацъ яе агні,
Усяго паабпякае —
Паспрабуй яе крані.

Усяго паабпякае,
І агонь той не саб'еш
А ні ў рэчцы, а ні ў гаі,
А ні ў доме, дзе жывеш.

Не ўратуешся ні бегам,
Ні ў зямлі, ні пад зямлёй.
Крапіва зялёным смехам
Пасмяецца над табой...

Ты прыціх?
Відаць, баішся?
Страх прыйшоў, прайшла вясна?
Вунь цвіце у садзе вішня,
Ой, лагодная яна.

Белым цветам зазывае...
Да яе ты паспяшай...
Крапіва хоць маладая,
Ды пячэцца, не чапай!

## ПЕРАПЁЛКА

Пад вячэрнім небам,
Дзесьці за пасёлкам,
Пэўна, захмялела
Ў жыце перапёлка.

І ад гэтай песні
Так жа, як калісьці,
Ўспыхнула узлессе
Залацістым лісцем...

Я гадоў бярэма
Скінуў з плеч стамлёных —
Аж зялёным рэхам
Адказалі клёны,

І іду з баянам
Сцежкаю туманнай,
З перапёлкай п'янай
Гавару, як п'яны...

## З ВЕКУ Ў ВЕК

Хто напоіць кнігаўку
З крыніц,
Хоць яна ўвесь дзень
І просіць піць?
Пройдзе,
Не заўважыць чалавек:
Піць жа яна просіць
З веку ў век.

Хто падумаў:
Ветру мо баліць,
Як у голлі дрэў
Ён зашуміць?
Пройдзе,
Не заўважыць чалавек,
Бо шуміць жа вецер
З веку ў век...

Кнігаўкай была б я
Без вады,
Ветрам бы шумела,
Каб не ты,
Бо баліць жа сэрца
З веку ў век.
Дзякуй за увагу,
Чалавек...

## ЖУРАВІНКА

Журавіны спелыя пайшлі.
Мы з табою іх збіраць прыйшлі.
Кошык лазовы...
Пах верасовы...
Ў журавіны мы прыйшлі.

Восень жураўліная плыла —
Журавінкай спелай ты была,
Шчокі ружовы...
Пах верасовы...
Журавінкай ты была.

Я цябе да сэрца прытуліў
І, здаецца, з восенню паплыў.
Вусны нявінны,
Як журавіны...
З жураўлямі я паплыў.

## ДАЎНІЯ КАСТРЫ

Што ж, пройдзем па гаі,
Дзе некалі хадзілі.
Ты помніш, салаўі
Нас да відна вадзілі.

Ты помніш, мы з табой
Шчаслівыя хмялелі,
Смяяўся свет расой,
І нам бярозкі пелі.

Пранесліся гады,
Іх зноў не спець,
як песні,
І маладосць, як дым,
Вятры жыцця разнеслі.

Ты бачыш, сівізна
Мае кранула скроні,
А даўняя вясна
Са мною і сягоння...

Дык пройдзем па гаі,
Дзе некалі хадзілі.
Ты помніш, салаўі
Нас па расе вадзілі.

Хадзіць і гаварыць
Не будзем да світання.
Хай даўнія кастры
Дыхнуць на міг каханнем.

## НАВАГОДНІ ВАЛЬС

Кружыцца, кружыцца, кружыцца,
кружыцца
Снег, снег, снег,
А каля ёлкі пялёсткамі дружнымі
Смех, смех, смех.

Лісы, і тыгры пад сінімі зоркамі,
І бабры
Кружацца ў парах з зайцамі, вавёркамі,
Як сябры.

І кожны, як лета, багаты
Цяплом, харaствам, дабратой.
Іскрыцца сняжынкамі светлымі свята,
І, нібы сняжынкі, настрой.

Шэпат твой светлы, чароўна-сняжынкавы
Закружыў,
Думкі мае, нібы знічкай, сцяжынкаю
Абпаліў.

Лёгкія-лёгкія, смелыя, светлыя
Нада мной
Кружацца ў вальсе пялёстачкі белыя,
Як вясной.

## ЛЕТУЦЕННІ

Яшчэ зіма,
Ды ў лесе над палянамі
Вясновых дзён чароўнае святло,—
І сонныя праталіны праглянулі,
А ў іх вачах былое ажыло.

Яшчэ ў душы
Зімы тваёй мяцеліца,
Ды ўжо краёчкам адыходзіць лёд.
Я адчуваю, хутка над аселіцай
Нябесных крылаў прашуршыць палёт...

Загадкавае... сіняе... світальнае,
Заваражы навекі, закружы!
І тое дарагое, вечна тайнае
Хутчэй вачам і сэрцу пакажы.

## АДТУЛЬ ПАЧАЛАСЯ РАДЗІМА

Дарожка лістком не запала —
Калінкаю пазавісала,
Дарожка да хаты дзяцінства,
Дзе ў вокнах зара залаціцца.

Там гай да сяла падступае
З вясёлай зязюляй у маі,
Там сінія казкі з узлесся
Насілі мяне ў паднябессі.

Там песня лугамі хадзіла,
Адтуль пачалася Радзіма,
Святая, як праўда, Радзіма,
Што ў сэрцы любоў нарадзіла,

Любоў, як вясновае сонца,
Як колас жытнёвы, як сосны,
Як спеў серабрысты у вецці —
Не жыць без яе мне на свеце!

# ЗМЕСТ



## ВЕРШЫ

## ПЕСНІ

Владимир Иванович Каризна

ТЕПЛОТА

На белорусском языке

Рэдактар Хв. М. Чэрня. Мастак А. М. Малышава. Мастацкі рэдактар М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар Л. Р. Законнікава.

АТ 21169. Здадзена ў набор 19/V 1976 г. Падп. да друку 14/IX 1976 г. Тыраж 3000 экз. Фармат 60×90 1/32. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 3,5. Ул.-выд. арк. 3,11. Зак. 282. Цана 31 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.

**Карызна Ул.**

21 **Цеплыня. Паэма, вершы, песні. Мн., «Маст. літ.», 1977 г.**

112 с.

Непарыўная сувязь з роднай зямлёй, народам, непаўторнае хараство родных краявідаў, балючы ўспамін аб сваім маленстве, бацьках—вось асноўныя матывы новага зборніка паэта.

К $\frac{0743\text{-}004}{М\ (302)05\text{-}77}$ 50-77 Бел 2

